Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка

№12 студзень 2012

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

*Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь*




***24-га студзеня 2012-га году, пасля разгляду касацыйнай скаргі калегіяй Мінскага гарадскога суда, прысуд кіраўніку Праваабарончага Цэнтру "Вясна" Алесю Бяляцкаму пакінуты без зменаў. Грамадскі праваабаронца надалей пакінуты за кратамі.***

# Прысуд Алесю Бяляцкаму пакінулі без зменаў

24.01.2012-га году, пасля разгляду касацыйнай скаргі калегіяй Менскага гарадскога суда прысуд Алесю Бяляцкаму пакінуты без зменаў. Грамадскі праваабаронца надалей пакінуты за кратамі

Прадстаўнік суда і ахова заявілі журналістам, што здымкі забаронены. Фатографаў з прафесійнымі камерамі не пусцілі ў суд. Усім астатнім прапанавалі пакінуць сваю апаратуру ў асобным пакоі. Судовая калегія выслухала адваката Змітра Лаеўскага.

Адвакат заявіў шэсць хадайніцтваў, з якіх да справы далучылі дакументы пра тое, што грошы, якія Бяляцкі павінен быў заплаціць у бюджэт, ужо выплачыны. Таксама запатрабаваў звярнуцца да фондаў, каб запатрабаваць ад іх нейкую



інфармацыю: на якія сродкі выдзяляліся грошы на рахунак Алеся Бяляцкага і ці быў гэта заробак Бяляцкага. Таксама адвакат папрасіў далучыць да справы дакументы пра маёмасць Алеся Бяляцкага, а таксама хадайніцтва пра тое, каб змяніць меру ўтрымання Бяляцкага, вызваліць яго з-пад варты і забяспечыць ягоную прысутнасць у судзе. Суддзі пагадзіліся з першым хадайніцтвам, далучылі да справы дакументы пра выплату падатка. Супраць усіх астатніх хадайніцтваў выступіў пракурор. Сам будынак суда знаходзіўся пад узмоцненай аховай. Усе, хто прыйшлі на працэс, абавязаны былі прайсці праз металашукальнікі, а таксама некалькі разоў зарэгістравацца ў спісах тых, хто прыйшоў.

# Вясна” ні на хвіліну не спыніць сваю працу!

Нягледзячы на вызначэнне Мінскага гарадскога суда, Праваабарончы цэнтр “Вясна” працягне сваю працу ў поўным аб’ёме і пакуль яшчэ ў тым жа памяшканні, у якім знаходзіўся дагэтуль.

“Мы, безумоўна, прагназавалі такое развіццё падзеяў. Аднак мы не бачым падставаў для таго, каб наш офіс бліжэйшым часам быў канфіскаваны. І нават у сітуацыі, калі праз некаторы час, магчыма, у нас яго адбяруць, мы пастараемся як мага хутчэй знайсці ўсе магчымасці, каб стала працягнуць працу ў іншым памяшканні”, - адзначае сябра Рады арганізацыі Уладзімір Лабковіч.

Праваабаронцы неаднаразова заяўлялі, што любыя віды пераследу, затрыманні, арышты, канфіскацыі ніколі не спыняць працу “Вясны”, паколькі яна надзвычай важная і патрэбная беларускаму грамадству.



# ЗАЯВА ПРАВААБАРОНЧАГА ЦЭНТРУ “ВЯСНА”

25 студзеня 2012 г. Мінск

Праваабарончы цэнтр “Вясна” катэгарычна пратэстуе супраць катаванняў, пагрозаў, шантажу і іншых недапушчальных спосабаў ціску і ўздзеяння на палітвязняў.

Асаблівую заклапочанасць выклікае заява жонкі экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава – Ірыны Халіп аб тым, што жыццё зняволенага палітыка знаходзіцца пад пагрозай, у дачыненні да яго ўжываюцца катаванні і бесчалавечнае абыходжанне. Мы ўспрымаем нядопуск адвакатаў да Андрэя Санікава, які меў месца да апошняга часу, як прамое пацверджанне заявы, зробленай жонкай палітвязня.

Праваабарончы цэнтр “Вясна” з разуменнем ставіцца да напісання палітычнымі вязнямі заяваў аб памілаванні, тым больш калі яны напісаныя пад пагрозай ужывання катаванняў у дачыннені да іх саміх ці членаў іх сям’і. Мы падтрымліваем любыя захады, скіраваныя на найхутчэйшае іх вызваленне.

Як фактар дадатковага ціску на палітвязняў мы расцэньваем беспадстаўную і незаконную змену рэжыму адбыцця пакарання Міколу Статкевічу, Мікалаю Аўтуховічу і Яўгену Васьковічу.

Праваабарончы цэнтр “Вясна” патрабуе неадкладнага вызваленння ўсіх палітычных вязняў і пакарання вінаватых у грубым парушэнні іх правоў, ужыванні катаванняў і незаконай змене рэжыму адбыцця пакарання.

Мы заклікаем міжнародныя арганізацыі і ўрады дэмакратычных краін ставіць абавязковай умовай аднаўлення любых кантактаў з афіцыйнымі асобамі Беларусі неадкладнае вызваленне і рэабілітацыю ўсіх палітычных зняволеных.

# Усё хакей?



***Старшыня Еўрапарламенту Ежы Бузэк публічна назваў найбольшай паразай сваёй палітыкі праблемы дачынення Еўрасаюзу з Беларуссю. Трэба, як кажуць, аддаць яму належнае з-за такой самакрытычнай ацэны, што ў прынцыпе відавочна для ўсіх. Сапраўды сітуацыя з дэмакратыяй і правамі чалавека ў Беларусі выглядае горш чым два гады таму. Адбываецца далейшы наступ на грамадзянскую супольнасць, у інтэрнэт-прасторы ствараецца цэнзура, больш жорсткім робіцца заканадаўства. Але найбольш драматычны момант – становішча палітычных вязняў.***

Умовы іх зняволення, пагаршэнне рэжыму ўтрымання, адназначна можна класіфікаваць як катаванні. Турма ў Беларусі – не проста спосаб зняволення, а месца прыніжэння чалавечай годнасці, здзеку з палітычных апанентаў рэжыму. У гэтай сітуацыі міжнародная супольнасць шукае новых механізмаў уздзеяння на дзяржаўную ўладу Рэспублікі Беларусь. Той жа Бузэк зноў вярнуўся да пытання правядзення ў Беларусі чэмпіянату свету па хакеі ў 2014 годзе. Яшчэ раней досыць катэгарычна выказалася на гэтую тэму прэзідэнцкая адміністрацыя ЗША, патрабуючы ўжыць санкцыі і пазбавіць цяперашнюю Беларусь права правядзення хакейнага форуму. Але з іншага боку вельмі хутка адрэагавала кіраўніцтва міжнароднай федэрацыі хакею, якое вуснамі свайго кіраўніка швайцарца Рэне Фазела заявіла, што гэтае пытанне не падлягае нават разгляду, маўляў “усё окэй, не змешвайце спорт і палітыку!”. Чакаць іншага ад скрозь карумпаваных чыноўнікаў такіх арганізацый як сусветныя федэрацыі хакею (IIHF), ці футболу (FIFA) і не даводзіцца. Тым больш, што і прэцэдэнтаў такога кшталту не зафіксавана. Але паспрабуем глянуць на гэта глыбей.

Тэарэтычна статут міжнароднай федэрацыі хакею прадугледжвае, што яе Савет можа пазбавіць пэўную краіну права правядзення чэмпіянату. Але сярод прычынаў чыста тэхнічныя – прыкладам, такія, як няздольнасць забяспечыць арганізацыю матчаў ці бяспеку замежных удзельнікаў. Няма пакуль прыкладаў валявога пазбаўлення той ці іншай дзяржавы права на правядзення спаборніцтваў. Але гісторыя ведае прыклады падтрымкі таталітарных чалавеканенавісніцкіх рэжымаў праз спорт. Так, Гітлеру далі



правесці летнія алімпійскія гульні 1936 году і ўзмацніць сваю фашыстоўскую ідэалогію. Вынік ведамы – наступныя гульні цывілізаваны свет здолеў арганізаваць толькі ў 1948-ым годзе. З больш блізкага часу прыгадваю аргентынскі чэмпіянат свету па футболе ў 1978-ым і свае дзіцячыя пачуцці. У СССР тады ўпершыню транслявалі мундыяль у вялікім аб’ёме і мы былі проста зачараваныя стадыёнамі далёкай рамантычнай “сярэбранай” краіны, прадстаўнікі якой і сталі чэмпіёнамі. Тады мы нічога не ведалі, што ў гэты сама час у Аргентыне лютавала дзікая ваенная дыктатура. Іншадумцаў, якіх залічвалі ў апазіцыянеры, падымалі соткамі на самалётах у неба і жывымі скідвалі ў акіян. А тэлевізійная карцінка стварала ілюзію шчаслівай мірнай краіны, якая так умее радавацца поспехам сваіх футбалістаў. Так, спорт, які паводле незабыўнага П’ера Кубэртэна ёсць мір, умацоўваў страшную дыктатуру. Калі ўжо зайшла гутарка пра дэ Кубэртэна, то яшчэ ён сам парушыў свае прынцыпы, здзейсніўшы ў сталым веку візіт у Трэці райх і захапіўшыся гітлераўскай Нямеччынай. Сцвярджаюць, што састарэлы барон папросту стаў ахвярай нацысцкай прапаганды і яго выкарысталі як хлопчыка, але такога факту з біяграфіі заснавальніка алімпійскага руху не выкрасліш.

Нехта можа прыгадаць тут байкот маскоўскай алімпіяды 1980-га году, але параўнанне будзе некарэктным. У тым сэнсе, што яго прычынай сталі знешнепалітычныя інатрэсы, а менавіта вайна, якую развязаў СССР у Аўганістане. У дадзенай жа сітуацыі чакаць байкоту зусім малаверагодна. Фінансавыя інтарэсы для чыноўнікаў, асабліва еўрапейскіх, куды важней за чалавечыя лёсы.

Найбольш узрадаваліся б пераносу чэмпіянату ў Менску напэўна… трэнеры і хакеісты зборнай Беларусі, якім лепей выступіць на чужым лёдзе. Бо там адказнасць зусім іншая, перадумоваў жа ўдалага выступу на родных арэнах на важным форуме аніякіх – гэта вам не калядны турнір на прызы прэзідэнта, дзе вынік ведамы заранёў. У гульню “нумар 1” убуханы вялізныя грошы – станоўчых вынікаў жа пакуль мізэр.

Асабіста для мяне важным падаецца тое, каб у сённяшніх палітычных і эканамічных умовах “такі хакей” стаў непатрэбным самым беларусам…

*Уладзімір Хільмановіч*

# Хроніка правапарушэнняў

## *Гарадзеншчына, студзень*

**У студзені** гарадзенскі актывіст Раман Юргель пазбавіўся працы ў прыватнай фірме “АВС”. Па яго словах, яго хацелі зрабіць галоўным прагульшчыкам прадпрыемства. За месяц працы 16 дзен Раман Юргель правёў на бальнічным лісце. Аднак яму паставілі 20 прагулаў. Яшчэ перад звальненнем Юргеля папярэдзілі, што ён як чалавек, які займаецца палітыкай, працу згубіць.

Афіцыйнае папярэджанне атрымаў **у студзені** ад супрацоўнікаў міліцыі гарадзенец Алесь Кіркевіч. Былы палітвязень і намеснік старшыні “Маладога Фронту”, мяркуе, што папярэджанне сведчыць пра агульную палітыку беларускага рэжыму ў дачыненні да палітычных апанентаў. Яшчэ адно папярэджанне і Алесь Кіркевіч можа апынуцца ў значна горшых умовах. Прэвентыўны нагляд яму могуць змяніць на варункі блізкія да хатняй “хіміі”.

**2 студзеня** старыя ўлёткі з партрэтам Зянона Пазняка спрычыніліся да чатырохгадзіннага затрымання жыхара вёскі Каробчыцы Гарадзенскага раёну Янкі Курчэўскага. Прапаршчык памежнай службы, які затрымаў яго ля вёскі Бакуны, хацеў атрымаць узнагароду за пільнасць, але ўлётка аказалася 18-гадовай даўніны. Фармальна Курчэўскага затрымалі на падставе таго, што ён парушыў памежны рэжым, хоць ён жыхар памежнай зоны, там нарадзіўся, ды меў візу на перасячэнне мяжы. Супрацоўнікі дзяржбяспекі, якія былі выкліканы з Гародні, цікавіліся менавіта ўлёткамі ды даходамі сям’і, а не асаблівасцямі памежнай зоны.

**3 студзеня** лідара Слонімскага аддзялення Партыі БНФ Івана Шэгу выклікалі ў суд Слонімскага раёна. Туды ж былі выкліканы і чыноўнікі са Слонімскага райвыканкаму. У час сустрэчы Іван Шэга выказаў незадавальненне тым, што слонімскія чыноўнікі парушаюць Законы Рэспублікі Беларусь, найперш закон «Аб масавых мерапрыемствах». Спадар Шэга некалькі разоў падаваў заяву ў мясцовы райвыканкам наконт правядзення пікету ў гарадскім парку з мэтай інфармавання насельніцтва аб дзейнасці праваабарончай арганізацыі «Вясна» і яе лідара Алеся Бяляцкага, але яму беспадстаўна адмаўлялі. Апошні раз яму адмовілі “ў сувязі з тым, што названае месца не адпавядае



рашэнню райвыканкаму ад 24 красавіка 2002 года № 152 “Аб зацвярджэнні месцаў, прызначаных для правядзення масавых мерапрыемстваў у Слонімскім раёне”. Але да таго часу ўжо дзеіла рашэнне Слонімскага райвыканкаму ад 28.09.2011 года і яно было апублікавана ў раёнцы “Слонімскі веснік”. Шматлікія адмовы мясцовых уладаў у рэалізацыі яправа на мірны сход у выглядзе пікету не заснаваны на законе, груба парушаюць правы і законныя інтарэсы, таму Шэга і звярнуўся ў суд. Суддзя Наталля Радзіонік уручыла Івану Шэгу позву ў суд на **12 студзеня.**

**6 студзеня** ў кватэру грамадска-палітычнага актывіста Алеся Кіркевіча з Гародні заявіліся судовыя выканаўцы. Гэта было зусім нечаканым для нядаўняга палітвязня, які да ўсяго неаднаразова быў пакараны рознымі штрафамі. Урэшце высветлілася, што дзяржаўныя прадстаўнікі патрабуюць нявыплачаны штраф, да якога быў засуджаны Кіркевіч яшчэ ў мінулым годзе – за перадвыбарчую сустрэчу гарадзенцаў з Міколам Статкевічам у час прэзідэнцкай кампаніі. Тады постфактум былі засуджаны некалькі гарадзенскіх актывістаў, сярод якіх і Алесь Кіркевіч – суд пастанавіў, што ён мусіць выплаціць 700 тысяч беларускіх рублёў штрафу за нібыта ўдзел у “несанкцыянаваным мітынгу”.

Ленінскі раённы суд Гародні не задаволіў пазоў Святланы Рудкоўскай, сябры Беларускага Хельсінскага Камітэта на выкананне працоўнага заканадаўства ўстановай, якая яе зволіла з працы. Жыллёва-будаўнічы спажывецкі кааператыў №14 у час звальнення Святланы дапусціў парушэнне працоўнага заканадаўства. Таму Рудкоўская змушана была звяртацца ў суд. Святлана Рудкоўская падала скаргу ў пракуратуру на рашэнне суддзі Ленінскага раёна Жанны Краўчанкі. “Працоўныя” праблемы ў Святланы Рудкоўскай пачаліся адразу пасля яе ўдзелу ў назіраннях за апошнімі прэзідэнцкімі выбарамі. Да гэтага ніякіх працоўных спагнанняў у яе за чатыры гады працы ў кааператыве не было.

**14 студзеня** гарадзенскі праваабаронца Віктар Сазонаў атрымаў чарговы ліст з Аддзелу ўнутраных спраў адміністрацыі Ленінскага раёну Гародні, які тычыцца сканфіскаванай з яго машыны рэкламнай прадукцыі Беларускага Радыё Рацыя. Гэта не першы ліст на гэтую тэматыку. Раней праваабаронцу тэлефанавалі з міліцыі і паведамілі, што ён можа забраць гэтую прадукцыю. Але як Сазонаў прыехаў забіраць, то не аддалі, спаслаўшыся на тое, што трэба дадатковая праверка. Крыху пазней у лісце з Аддзелу ўнутраных спраў адміністрацыі Ленінскага раёну Гародні

# Хроніка правапарушэнняў

## *Гарадзеншчына, студзень*

паведамлялася, што прадукцыя не носіць забароненага характару, і праваабаронца чакаў званка, калі яму гэтую прадукцыю забраць. Але прыйшоў яшчэ адзін ліст з таго ж аддзелу ўнутраных спраў адміністрацыі Ленінскага раёну Гародні, дзе паведамляецца наступнае: "... па выніках праведзенага даследвання буклет "Беларускае Радыё Рацыя" і календарык з такой жа назвай, а таксама сумкі і майкі з лагатыпам "Радыё Рацыя" з'яўляюцца незаконнай друкаванай і рэкламнай прадукцыяй і іх належыць знішчыць". Па якіх крытэрах рэкламная прадукцыя Беларускага Радыё Рацыя ёсць незаконнай, у лісце не паведамлялася.

**16 студзеня** пастановай суду Ашмянскага раёну часткова задаволены пазоў індывідуальнага прадпрымальніка, дырэктара будаўнічай фірмы Андрэя Дзятко, да грамадскага актывіста з мястэчка Варняны, каардынатара рэгіянальнай ініцыятывы "Астравецкая атамная станцыя – гэта злачынства" Мікалая Уласевіча. Ісцец патрабаваў ажно 30 мільёнаў беларускіх рублёў як кампенсацыю яму маральных стратаў. Суд вызначыў, што Уласевіч мусіць выплаціць яму 1 мільён рублёў, а судовыя выдаткі бакі мусяць сплаціць папалам. Стартавай прычынай працэсу стала скарга Уласевіча, якую ён падаў яшчэ ў красавіку 2011 году на шматразовыя злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі старшыні Астравецкага райвыканкаму Адама Кавалько. Скарга была накіравана ў Генеральную пракуратуру і Савет Бяспекі пры прэзідэнце. Вынікам стала тое, што адзін з фігурантаў скаргі па фактах парушэння заканадаўства, індывідуальны прадпрымальнік Андрэй Дзятко, які неаднаразова атрымліваў прэферэнцыі ад галоўнага "вертыкальшчыка" раёну, падаў на грамадскага праваабаронца ў мясцовы суд. Справа мусіла разглядацца ў Астравецкім раённым судзе, але нечакана была перанесена ў Ашмянскі. Працэс некалькі разоў пераносіўся і завяршыўся толькі зараз.

**19 студзеня** у памяшканні суду Слонімскага раёна адбылося судовае паседжанне па скарзе лідара мясцовай суполкі Партыі БНФ Івана Шэгі на дзеянні Слонімскага райвыканкаму, які паслядоўна забараніў усе заяўленыя акцыі салідарнасці з праваабаронцам Алесем Бяляцкім. Суддзя Наталля Радзіонік адмовіла ў задавальненні скаргі, палічыўшы, што Слонімскі райвыканкам меў рацыю.

На Гарадзеншчыне працягваецца працэс татальнага вынішчэння старых дрэваў вакол хрысціянскіх храмаў, а таксама абапал дарог. Такая практыка пачалася яшчэ за часам кіравання Гарадзенскім аблвыканкамам Уладзімірам Саўчанкам і працягваецца дагэтуль. У вёсках і мястэчках паслядоўна вырэзваюцца старыя прысады і нават цэлыя паркі. У выніку населеныя пункты істотна губляюць сваё аблічча. Можна прыгадаць такія мястэчкі як Любча (Навагрудскі раён), Каменка (Шчучынскі раён), Дзярэчын (Зэльвенскі раён), Лунна (Мастоўскі раён) і шматлікія іншыя. Асаблівы вялікі маштаб выразанне дрэваў набыло пры аўтадарогах усёй вобласці, дзе фактычна цалкам вынішчаюцца прыдарожныя лесапалосы. Выразаюцца паўсюль дрэвы і вакол хрысціянскіх храмаў, прычым не толькі старыя, а ўвогуле ўсе дрэвы. Праваслаўныя і каталіцкія святары пры тым маўчаць. Характэрна, што абласныя і раённыя ўлады фактычна нічым не матывуюць свае варварскія дзеянні па татальным знішчэнні дрэваў. Пратэставыя галасы асобных жыхароў і грамадзянаў папросту ігнаруюцца, а экалагічных арганізацый альбо няма, альбо яны вельмі слабыя, каб супраціўляцца такому незразумеламу дзікунству ўладаў.

**25-26** студзеня міліцыя турбавала гарадзенскіх прадстаўнікоў Партыі БНФ. У сераду невядомыя некалькі разоў званілі ў кватэру сябра рады мясцовай арганізацыі Валерыя Кісяля. У паштовай скрыні пазней ён знайшоў дзіўную позву – з'явіцца ў крымінальна-выканаўчую інспекцыю для пастаноўкі на ўлік. Прадстаўнік БНФ не выключае, што такім чынам яго хочуць прымусіць здаць адбіткі пальцаў. Пры тым, Валер Кісель некалі ужо здаваў іх пасля аднога з затрыманняў – праўда, было гэта яшчэ да з'яўлення закону аб абавязковай дактыласкапіі. Падобным чынам патурбавалі і старшыню гарадской арганізацыі Партыі БНФ Вадзіма Саранчукова. Паводле ягонай ацэны такія захады прадстаўнікоў міліцыі могуць быць звязаныя з актывізацыяй партыйнай суполкі.

**29 студзеня** гарадзенскую журналістку Гражыну Шалкевіч выклікалі ў гарадзенскае абласное ўпраўленне КДБ. Афіцыйную позву ёй хацелі перадаць яшчэ ў суботу ўвечары, але журналісткі не было дома. У нядзелю каля 14-й гадзіне ў кватэру Шалкевіч прыйшоў міліцыянт з позвай на 18-ю гадзіну гэтага ж дня. Чаму такая пільнасць спатрэбілася ў выходны нядзельны дзень, журналістцы не патлумачылі. Гражына Шалкевіч адмовілася ісці на гэты час і з тае прычыны, што ёй не было з кім пакідаць малое дзіця. Тады прадстаўнік міліцыі патэлефанаваў ва ўпраўленне КДБ і выклік перанеслі на панядзелак 30 студзеня на 8.30 раніцы. На так званую размову з органамі дзяржбяспекі Шалкевіч пайшла з адвакатам, якому не дазволілі прысутнічаць у час гутаркі.Супрацоўнік органаў азнаёміў журналістку з Крымінальным кодэксам Рэспублікі Беларусь, дзе прапісана адказнасць за дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь у публікацыях, аўдыё-, відэаматэрыялах, а таксама аб адказнасці за абразу прэзідэнта. Змест і сэнс гутаркі фактычна можна расцэньваць як вуснае папярэджанне. Таксама супрацоўнік КДБ вусна папярэдзіў Шалкевіч пра крымінальную адказнасць за супрацу з замежным СМІ без акрэдытацыі.

# Дэжа вю

***Пра Беларусь зараз гаворыць увесь свет. На жаль, больш кепска, чым добра. Тое, што робіцца ў нашай краіне многія называюць ганьбай Еўропы. Еўрапейскія краіны і Амерыка ўводзяць рознага кшталту санкцыі. Многім беларускім чыноўнікам і парламентарыям забаронены ўезд на тэрыторыю Еўразвязу. Знакамітыя людзі планеты пішуць лісты беларускім палітвязням з пажаданнямі свабоды. Толькі гэта аніяк пакуль што не ўплывае на саму сітуацыю. На яе сутнасць.***

Некаторыя еўрапейскія палітыкі прама называюць становішча ў Беларусі сваёй асабістай палітычнай паразай. Іншыя апускаюць рукі і прызнаюцца, што яны не ведаюць як яшчэ можна паўплываць на беларускі рэжым. А ў шэрагах беларускай унутранай апазіцыі ўсё гучней чутны галасы пра тое, што Захад не рашучы, слабы, недастаткова паслядоўны і ўвогуле кінуў сваіх дэмакратычных аднадумцаў на міласць існуючай ўладзе.

Толькі вось ці усё зрабіла сама беларуская апазіцыя для змены такога становішча?! Ці можа яна ўвогуле хоць крыху ўплываць на сітуацыю ў сваёй краіне? І ці хоча? Тут пытанняў больш чым адказаў. Бо пакуль што, гледзячы на дзеянні некаторых палітычных шышак ад апазіцыі, складваецца такое ўражанне, што ўсё гэта мы ўжо недзе бачылі і чулі. Такое своеасаблівае дэжа вю, якое мае некалькі стабільных перыядаў, якія паўтараюцца з дакладнасцю да коскі і адрозніваюцца толькі датай.

А пачынаецца ўсё з гучнага ляманту адразу пасля выбараў. І не важна пасля якіх. Прэзідэнцкіх, парламенцкіх ці мясцовых. Сцэнар не мяняецца. Адразу пасля выбараў ідзе размова пра фальсіфікацыю і пра тое, што нарэшце ўсім стала зразумела, што на такія выбары хадзіць не варта. Гучаць сцверджанні, што ў наступных выбарах апазіцыя ўдзельнічаць не будзе. І ставяцца жорсткія ўмовы каб улада выпусціла палітвязняў і змяніла выбарчае заканадаўства. Гаворыцца гэта так цвёрда і рашуча, што пачынаеш верыць. І ўсё, пакуль што, здаецца ідзе лагічна і ў правільным кірунку.

Пасля надыходзіць перыяд стварэння чарговай кааліцыі. Беларуская апазіцыя чамусьці




любіць лічбу шэсць. Часамі гэтая лічба замаскіраваная пад назвы кшталту “пяцёрка плюс”, а бывае і не маскіруецца. Шэсць, і ўсё тут. Задача гэтай кааліцыі зводзіцца да ўсяго двух рэчаў. Першая, яна абвяшчае усяму свету, што беларуская апазіцыя нарэшце аб’ядналася. І другая. Апазіцыя сур’ёзна абмяркоўвае якім павінен быць байкот выбараў, актыўным ці пасіўным. Гэта ўжо смешна. Але галоўны смех наперадзе. Абмеркаванне варыянтаў байкоту завяршаецца прыняццем рашэння ўдзельнічаць у выбарах. Спачатку якімсьці адным суб’ектам. Пасля, паступова, колькасць палітычных суб’ектаў дацягваецца да усё той жа лічбы шэсць. Праўда, дэкларуецца, што ўдзел у выбарах мажлівы толькі пры ўмове, калі ўлада выканае пэўныя патрабаванні. Улада тых патрабаванняў ніколі не выконвае, а апазіцыя, моцна пакрыўдзіўшыся, ідзе на выбары без аніякіх умоў.

Здаецца гэта поўны дэбілізм. Затое ўсе пры справе. Улада павялічвае штаты АМАПу і іншых спецслужбаў, адукаваныя апазіцыянеры пішуць перадвыбарчыя праграмы і прамовы, неадукаваныя дамаўляюцца праз пасярэднікаў з уладай, каб аднаго-двух іх партыйцаў прапусцілі ў дэпутаты. А пасля ўсё паўтараецца. Толькі ў выглядзе яшчэ большага абсурду і фарсу. Ва ўсіх раптам расплюшчваюцца вочы, усе бачаць падманлівасць улады, нявыпушчаных з астрогу палітвязняў, нязмененае выбарчае заканадаўства і пачынаюць наракаць, што Захад недастаткова рашучы і вельмі слаба і мала ціске на дзеючы ў Беларусі палітычны рэжым.

Гэты раз не стаў выключэннем. Ужо прагучалі галасы, што на выбары ісці трэба. І так гучна прагучалі, што не чуваць за імі тых галасоў, якія сцвярджаюць, што такія дзеянні ёсць здрадай не толькі палітвязням, не толькі сваім ранейшым заявам, не толькі здароваму сэнсу і логіцы, але і будучыні беларускага народа.

Адно толькі можна сцвярджаць з упэўненасцю. Што калі ўсё ідзе па старым сцэнары, то і вынік будзе стары. Дакладней, не будзе аніякага. Акрамя дэжа вю.

***Віктар Сазонаў***

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на люты 2012 году

**2 лютага**

80 гадоў таму (1932) – У мяст. Скідаль (Гарадзенскі р-н) нарадзілася Людміла Махнюк (дзявочае Каліноўская), дзеячка беларускага культурніцкага руху ў эміграцыі (ЗША).

**4 лютага**

55 гадоў таму (1957) – Памёр Браніслаў Ямант, мастак, пэдагог. Нараджэнец в. Дакудава (Лідзкі р-н).



**5 лютага**

375 гадоў таму (1637) – У Вільні памёр Язэп Вельямін Руцкі (нар. у 1573 ці 1574 у в. Рутка, Наваградзкі р-н), царкоўна-палітычны дзеяч, уніяцкі мітрапаліт, пісьменьнік-палеміст. Пахаваны ў віленскім Сьвятатраецкім манастыры.

**8 лютага**

125 гадоў таму (1887) – У Гародні нарадзіўся Уладыслаў Талочка, беларускі рэлігійны і культурна-асьветніцкі дзеяч, культоляг, гісторык, літаратуразнавец.

**9 лютага**

145 гадоў таму (1867) – Памёр Караль Нямцэвіч (нар. у 1797), удзельнік паўстаньня 1830-31. Вучыўся ў Сьвіслачы.

**10 лютага**

560 гадоў таму (1452) – Памёр Сьвідрыгайла (нар. каля 1370), вялікі князь ВКЛ у 1430-32 гг.

**11 лютага**

205 гадоў таму (1807) – У в. Варацэвічы (Іванаўскі р-н) нарадзіўся Напалеон Орда, піяніст, кампазітар, мастак, удзельнік паўстаньня 1830-31. У 1823 г. скончыў Сьвіслацкую гімназію.

60 гадоў таму (1952) – У савецкім канцлягеры памёр Андрэй Цікота (паводле інш. зьв. 13 ці 21 лют.), беларускі рэлігійны і грамадзка-культурны дзеяч, генэрал ордэну марыянаў. Нараджэнец хутару Плавушка (Смургонскі р-н).

60 гадоў таму (1952) – У Віцебску нарадзіўся Мікола Лук'янаў, беларускі мастак. Жыў і працаваў у Гародні.

**14 лютага**

75 гадоў таму (1937) – У в. Вялікая Лябёдка (Шчучынскі р-н) памёр Напалеон Чарноцкі, беларускі публіцыст, перакладнік.

**21 лютага**

Міжнародны дзень роднай мовы.

**22 лютага**

150 гадоў таму (1862) – Памёр Вікенці Дмахоўскі (нар. у 1805 ці 1807 у в. Нагародавічы, Дзятлаўскі р-н), жывапісец, майстар гістарычнага жанру, удзельнік паўстаньня 1830-31 гг.

**23 лютага**

105 гадоў таму (1907) – У в. Арляняты (Смургонскі р-н) нарадзіўся Станіслаў Станкевіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, літаратуразнавец, публіцыст, дзеяч эміграцыі (Нямеччына, ЗША).

**24 лютага**

110 гадоў таму (1902) – Нарадзіўся Янка Геніюш, беларускі дзеяч, бібліяфіл, доктар, вязень ГУЛАГу. Жыў і пахаваны ў Зельве.

**28 лютага**

70 гадоў таму (1942) – У Ленінградзе ад голаду памёр Канстанцін Пушкарэвіч беларуска-расейскі славіст, літаратуразнавец, пэдагог. Нараджэнец Слоніму.

*Кожны аўторак у эфіры незалежнай радыёстанцыі “Радыё Рацыя” - праграма “Людзьмі звацца!”, якая асвятляе падзеі, датычныя правоў чалавека на Беларусі. Час выхаду ў эфір – 15-05 (паўтор - серада 0:05-1:00 і субота 7:05-8:05). Таксама ў гэты час яе можна слухаць праз інтэрнэт на сайце*

**www.racyja.com**

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце*

**www. spring96.org**




*На сайце*

**www.palitviazni.info**

*вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце*

**www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя і іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь «Прэзумпцыя» выходзіць 1 раз у месяц наклад 299 асобнікаў для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку: студзень 2012
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры перадруку спасылка абавязковая

